Год выдавецтва II. ЦАНА НУМАРУ 30 гр.

# ПРАВАСЛАЎНАЯ БЕЛАРУСЬ

Царкоўна-грамадская і палітычная часопісь.
(Орган Праваслаўнага Беларускага Дэмократычнага Аб'яднаньня).
(Выходзіць 2 разы ў месяц)

№ 10 (16) | 29 КРАСАВІКА. | 1928 г.

| АДРЭС РЭДАКЦЫІ: | ПАДПІСНАЯ ЦАНА: | ЦАНА АБВЕСТАК: |
| --- | --- | --- |
| Вільня, Вострабрамская, 8—1. | на 1 месяц: 60 гр.<br>на 3 месяцы: 1 зл. 50 — | на 1-шай старонцы 30 гр., пасярод тэксту 25 гр., на апошняй старонцы 20 гр., за рад. пэтыту. |

**Зварачваем увагу чытачоў на зьмену адрэсу Рэдакцыі: Вострабрамская 8—1.**

## Небяспека новай вайны.

У астатнія дні ўсе эўрапейскія газэты з трывогай загаварылі аб магчымасьці новай вайны...

Поводам да гэтага паслужыла цэлая сэрыя палітычных сьвіданьняў, якія адбыліся у Італіі, — асабліва астатняе сьвіданьне Муссаліні з польскім міністрам Залескім.

Калі судзіць з статыстыкі, зьмяшчанай у адным з нядаўніх нумароў Рыскай газэты «Сегодня», Польшча і Італія ёсьць тыя дзяржавы, якія трацяць найбольшы процэнт свайго бюджэту на войска. Калі адносна да Польшчы гэта яшчэ можэ тлумачыцца яе географічным палажэньнем, — паміж найбольш моцнымі у ваенным сэнсе дзяржавамі і бязмерна доўгай сухапутнай пагранічнай лініяй,—дык адносна да Італіі гэта ужо нічым не тлумачыцца апрача ваеннага настрою яе фактычнага дыктатара. Вось дзеля чаго ўсе іншыя дзяржавы глядзяць на Італію як на дзяржаву, ад якой у найбольш значнай меры залежыць спакой Эўропы. Трэба да гэтага дадаць і тое, што у астатнія часы узрастаюць усё больш і больш непаразуменьняў паміж Італіяй і Югаславіяй; адносіны іх паміж сабой робяцца з кожнай хвіляй больш напружанымі. Натуральна, што, калі Італія пачала вясьці

перагаворы з Грэцыяй, Румыніяй і Турцыяй, — дзяржавамі суседнімі з Югославіяй,—дык палітыкі Эўрапэйскія зразумелі гэта як змаганьне Італ'і падгатаваць напад на Югаславію, у якой Муссаліні бачыць найбольшую для сябе перашкоду у зьдзейсьненьні сваіх шырокіх пляnaў на поўдні Эўропы, перадусім на Балканах...

На Балканах... Ізноў гэтыя Балканы, — вялікі паўвостраў, запоўнены мноствам малых дзяржаваў, з якіх амаль не заўсёды пачынаюцца войны у Эўропе, з якіх пачалася і астатняя вялікшая з усіх войнаў, якія калі толькі бачыў сьвет! Як сярод людзей гэтак часта бывае, што бойка пачынаецца з малых, а пасьля у яе уцягіваюцца і большыя, вось можа так здарыцца і цяп р. Калі-б узапраўды пачалася вайна паміж Італіяй і Югаславіяй, калі узапраўды, як трубяць нямецкія газэты, Італія ужо утварыла саюз з Румыніяй, Грэцыяй і Турцыяй, то хто-ж можа тады паручыцца за тое, што С.С.С.Р. астанецца спакойнай і не пастараецца, карыстаючы з гэтага мамэнта, напрыклад хоць вярнуць сабе Бесарабію, якая адайшла да Румыніі, ці навэт адарваць штосьці назад ад Польшчы? А тады, ці астанецца у староны Германія? А за ей Францыя? І йзноў можа узнікнуць агульна-эўрапэйская бойка з усімі тымі страхотнымі новымі спосабамі зьнішчэньня людзей, якія у папярэднюю вайну толькі пачыналі яшчэ ужывацца!..

Тыя тысячы і дзесяткі тысячаў аэрапллянаў, якія збудаваны за гэтыя часы пачнуць абсыпаць гарады і вескі бомбамі і будуць труціць людзей усімі 512-цю (ці больш) сартамі і відамі атрутных газаў, якія вучоныя ўсяго сьвета знайшлі і прыдумалі за астанія гады.

Праўда і тое, што дыплёматы ўсіх дзяржаваў з асобым націскам усюдах заяўляюць аб сваіх самых мірных настроях і мэтах, але-ж... на тое яны і дыпламаты, і мы ужо прывыклі тым больш чакаць вайны, чым больш дыплёматы гавораць аб разбраеньні.

Ня дзіва дзеля гэтага, што, ня гледзячы на гэтыя завяреньні, грамадзянства ўсяго сьвета спалохалася і як гаварыцца насьцярожылася. Цэнтрам увагі ўсяго сьвету зрабілася цяпер Італія з яе баёва настроеным дыктатарам. Сам Муссоліні нікуды з Італіі ня выежджае. Дзеля гэтага ўсе едуць да яго, і ў Італіі цяпер, як бы сказаць, знаходзіцца ключ будучых падзеяў.

Ці будзе вайна, ці не, ня ведама нікому, але, калі яе і ня будзе, дык не ад перагавораў дыплёматаў, але ад таго, што як чуваць у паветры і відаць з жыцьця, яшчэ, здаецца, не накапілася *ў масах* новага баяўнічага настрою, які перад усім патрэбны для «няспадзеванага» узрыву,—яшчэ не адрасла шэрсьць, ня залізаны ўсе раны ад папярэдняй вайны і не набралася ахвоты для новых бояк.

**Сябра.**

Пашырайце сваю часопісь сярод праваслаўных чытачоў.

# Першыя шагі новага Беларускага Пасольскага Клюбу.

Новы Беларускі Пасольскі Клюб складаецца с шасьцёх асоб, — чатырох паслоў Сойму (Ф. Ярэміч, П. Карузо, А. Стэповіч і К. Юхневіч) і дв х сэнатараў (В. Богдановіч і В. Рагуля).

У самым пачатку яшчэ перад выбарамі маршалка ён, пасьля перагавораў з клюбам украінскім, фармальна аб'яднаўся з гэтым клюбам як у Сойме, так і ў Сэнаце, што дало пры выбарах прэзыдыўму Сойма і Сэната значную вагу гэтым клюбам, бо ў Сойме Украінска-Беларускі клюб заняў такім чынам трэцьце мейсца па лічбе сваіх сяброў, а ў Сэнаце — другое. Гэта дало значны ўплыў іх на справу выбараў, дзякуючы чаму гэтым аб'яднаным клюбам удалося правясьці як у Сойме, так і ў Сэнаце ў прэзыдыўмы па аднаму віце-маршалку і па аднаму сэкрэтару з украінцаў, што мае вялікае значэньне ў далейшай працы Сойму і Сэнату.

З газэтаў (а некаторыя і па радыё) нашы чытачы ужо ведаюць, пры якіх варунках адчыняўся Сойм.

Коратка напомнім толькі, што адбылася гэта ўрачыстасьць з вялікім скандалам, пры чым у Сойм была ўведзена паліцыя, арыштаваўшая некалькі паслоў камуністаў із „Вызваленьня". Не бяз шуму і крыку адбылася і прысяга паслоў, калі, падчас выкліканьня паслоў, якія знаходзяцца ў турме, кожны раз паднімаўся йзноў крык і гоман: „ганьба, паслы ў турме!" і г. д.

Перад выбарамі маршалка Сойму старшыня беларускага пасольскага клюбу Ярэміч унес прапазыцыю, каб адлажыць выбары маршалка, пакуль ня будуць выпушчаны з турмаў арэштаваныя паслы. Але пасол Бойка, які, як старшы, кіраваў паседжаньнем, ня згадзіўся паставіць на парадок дня гэтую прапазыцыю, бо меў пэўны наказ і гатовый парадак паседжаньня ад Прэзыдэнта. Аднак тое, што маршалкам Сойму быў выбраны Дашынскі, а ня кандыдат „адзінкі" павяло за сабою, што па яго загаду ўсе заарэштаваныя паслы былі ўжо на другі дзень выпушчаны з турмаў на волю і на трэці дзень прыехалі ўжо ў Сойм,—у тым ліку і пасол Беларускага Клюбу Юхневіч.

Адчыненьне Сэнату прайшло на адварот зусім спакойна. Там „адзінка" мае нагэтулькі значную большасьць з усіх партыяў. (З 111 сэнатараў 48 мае адзінка, далей найбольшы клюб Беларуска-Украінскі — 12 чал.), што кандыдатуру маршалка ўсе партыі павінны былі ўступіць ей. Шыманьскі кандыдат, „адзінкі", і бы выбраны на гэтае становішча.

Адразу пасьля выбараў прэзыдыўму на першым паседжаньні Сойму прэзэс Бел. Кл. Ярэміч унес прапазыцыю аб амнэстыі палітычных. „Нагласьць" (сьпешнасьць) гэтага ўнёска Соймам была сьцьверджана, і ён аддадзены на разгляд у камісію.

31-шага сакавіка падчас разгляданьня бюджэту, п. Ярэміч сказаў вялікую і гарачаю прамову. Ня маючы мейсца для яе на старонках нашае часопісі, перадаем кароткі зьмест.

У цэлым бюджэце, казаў п. Ярэміч, я не знайшоў ні воднай пазыцы, па якой бы хоць што небудзь давалася на карысьць беларускага народа. Ня гледзячы на вялізарныя абяцанкі сучаснага ўраду, нічога ў палітыцы адносна да беларусаў не зьмянілася. На прозьбу аб вучыцельской сэмінарыі Урад ня даў нават ніякога адказу. Бюджэт павялічываецца, але на што? — на паліцыю. Час выбараў, калі „партыйная работа тварылася на скарбовы кошт, калі ў аднэй Лідзе ўняважнена было 72.000 галасоў, калі на гэты грошы куплялі здраднікоў беларускага народу, — паказаў нам ясна, як да нас адносіцца гэты урад.

Ёсьць казаў ён у Польшчы два галоўных пытаньня: 1) пытаньне аб нацыанальных меньшасьцях і 2) зямельнае. Пакуль ня вырашаны гэтыя, ня вырашацца і іншыя.

На канцы п. Ярэміч агаласіў ад імя Белар. Нац. Клюбу гэдокую дэкларацыю.

Сьвятым ідэалам кожнага народу ёсьць здаровае і нармальнае імкненьне

кожнага здольнага да незалежніцкага жыцьця народу. Зьдейсьненьне права самаазначэньня народаў памінула Беларускі Народ, які ня раз даў доказ свайго незалежніцкага імкненьня.

Дзеля гэтага, мы, як прадстаўнікі шырокіх масаў сярмяжнага народу, стаячы на грунце самаазначэньня народаў, а ўзгадоўваючы ў сэрцах сваіх ідэал злучанай, незалежнай Беларусі, будзем заўсёды змагацца за гэты Ідэал нашага Народу, які ёсьць ідэалам і ўсяго чалавецтва.

Невялікая нашая колькасьць ў гэтай палаце, аднак-жа хопіць яе на тое, каб з гэтай высокай трыбуны заўсёды крычэць аб вялікай крыўдзе, якая робіцца Беларускаму Народу".

У першым паседжаньні Сэнату сэн. Багдановіч падаў унёсак аб звальненьні сэнатара Рагулі, які ўсё яшчэ астаецца ў турме, бо ня можа унясьці вялізарную каўцыю 10.000 зл., „якую яму вызначыў суд. „Нагласьць" (сьпешнасьць) унёску была прынята амаль не аднагалосна, але маршалак сэнату не захацеў паставіць самую справу на парадак дня, і яна была скіравана ў камісію. Акрамя гэтага пас. Ярэміч і сэн. Багдановіч рабілі інтэрвэнцыю ў в.-прем'-ера Бартэля, які абяцаў гэтую справу вырашыць прыхільна. Але-ж ня гледзячы на ўсё гэта, доля сэн. Рагулі зьмянілася толькі ў тым, што яго з навагрудзкага перавязьлі ў віленскі Нова-Стэфанскі вастрог.

*Сябра.*

# Праваслаўны рух у Прыкарпацкай Русі.

У „Рускім Сяле" у Прыкарпацкай Русі ў Чэхаславацыі стала выхадзіць у сьвет новая газэта пад назовам: „*Православная Карпатская Русь,—церковно-народный орган православнаго движенія на Карпатской Руси и Восточном Словенску*", першы нумар якой дастаўлены ў нашую Рэдакцыю. Рух на карысьць праваслаўя ўзнік сярод уніятаў Прыкарпацкай Русі ўжо даўно, яшчэ перад вайной з прычыны уціскаў нацыянальных і рэлігійных з боку аўстрыяцкіх уладаў і з боку непамерна рацівых р.-каталіцкіх ксяндзоў, змагаўшыхся гэтых уніатоў зусім акаталічыць. Аднак пры тых палітычных варунках, у якіх жылі ўніяты ў Аўстрыі, складаючыся там з украінцаў, называючых сябе рускімі, фактычна здзейстніцца ня мог: аўстрыйскі ўрад, апасаючыся праз праваслаўе расейскіх уплываў, змагаўся з гэтым*). Ужо падчас вайны, калі расейскае войска ўвайшло ў Аўстрыю, некалькі прыходаў з уніі перайшло на праваслаўе, але гэты рух тады-ж значна скампрамітавалі самі расейцы, некаторыя дзеячы якіх шавіністычна-правага напрамку, надта пасьпяшылі паехаць туды адразу за войскам, каб „пасабляць" гэтаму руху. Гэта толькі папсавала справу, бо адразу прыдало праваслаўнаму руху непрыемны палітычны колер, а пасьля, як прыйшлося расейскім войскам выхадзіць абратна з Аўстрыі, дык гэта толькі пацягнула за сабой рэпрэсіі з боку аўстрыяцкіх уладаў адносна да тых, хто выявіў сваю прыхільнасьць да праваславія,—значыць... і да расейскай дзяржавы.

Пасьля вайны і адраджэньня незалежнай Чэхіі, праваслаўны рух узнавіўся там з новай сілай. Унія і каталіцтва моцна барацца там з праваслаўным рухам, так што на гэтым грунце там здараецца ня мала розных інцыдэнтаў, даходзячых ледзь не да крывавых расправаў. Аднак, ня гледзячы на гэта, праваслаўе пашыраецца, і вось ужо ў апошнія часы (паводле даных праваслаўнага календара, выданага ў 1927 г. у Сьвідніку на Словенску) там зарганізавалася каля 50 правасл. прыходаў і ёсьць больш 60 сьвяшчэннік., а ў апошнія часы нават выдаецца і свая газэта (адрэс газэты „Праваслаўная Карпатская Русь"; (poczta Rakoszyn, s. Russkoje, Protoierej Ws. Kołomocki).

Народ праваслаўны, там усе сяляне, жывуць дужа бедна, многа бядней

*) Былі толькі адзінкавыя пераходы уніацкіх парафіяў, напр. Изская парафія у 1903 г. і інш.

нашых, але да царквы і веры надта прыхільны і ўсердны. Царкоўнае жыцьцё—захавала датуль нейкія характэрныя асаблівасьці ў царкоўных сьпевах і розных звычаях. Разьвіцьцю царкоўнага жыцьця многа перешкаджае брак кандыдатаў на сьвяшчэньнікаў, бо няма адпаведных школаў.

Цікаўна, што адначасна пачынае расьці праваслаўны рух і па гэтую старану Карпатаў, — у межах Польшчы на абшырных прасторах ад Львова да Кракова.

Рух гэты пачаўся ў канцы 1926 года, калі ў самы дзень Ражства Хрыстова ўзнікла першая праваслаўная парафія ў с. Туляве на Лямкоўшчыне. За гэтым сялом пайшло сяло Терсьцяні і іншыя, так што ў працягу аднаго месяца да праваслаўя далучылася больш 50.000 уніатаў, з якіх зарганізована больш 30 парафіяў, разкінутых па ваяводствам: Львоўскаму, Кракоўскаму і Станіславоўскаму.

Цэнтрам руху зьяўляецца праваслаўнае брацтва ў Львове, якое ў гэтых днях пачало выдаваць сваю часопісь пад назовам „Воскресеніе". Старшынёй „Братства" і рэдактарам „Воскресенія" (адрэс: Lwów, Franciszkańska 3) зьяўляецца архімандрыт Пантэлейман. У першым нумары зьмешчана, апрача прывітальных артыкулаў і вершаў, рад караткіх абрысаў праваслаўнага руху ў Галіцыі.

**Праваслаўны.**

## Сацыялізацыя земляробства у С. С. С. Р.

Аграрная палітыка ўраду С.С.С.Р., як мы бачым нават з уласных савецкіх крыніц *) давяла да голаду мястовае жыхарства і войска; у сялян не хапае насеньня для пасеваў. Ня гледзячы на гэта, савецкая ўлада прадаўжае свае сацыяльныя экспэрыменты (опыты) над савёцкім мужыком. У астатнія часы яна задумала „ашчасьлівіць" сялян яшчэ новым экспэрымэнтам,—заводзіць цяперака сацыялізацыю земляробства.

Справа ў тым, што з 24 мільёнаў усіх сельскіх гаспадарак у С. С. С. Р. толькі 6 міл., т. зв. „кулацкіх" гаспадарак (з надпрадукцыяй), бяруцца пад увагу пры апрavізацыі местаў і войска, тады як 18 мільёнаў гаспадарак беднякоў і сярэднякоў ня толькі што пассыўны, але яшчэ самі трэбуюць дзяржаўнай помачы для абсямяненьня палёў. Вось раптам выпрацаваны новы плян „коллектывізацыі гаспадарак", г. е. — пазлучаць па некалькі гаспадарак ў адну, каб яны супольна (калектиўна) апрацоўваліся некалькімі семьямі і называліся „Колхозамі" (коллективное хозяйство).

Гэтыя дзьве сыстэмы гаспадарак, па зданьню бальшавікоў, павінны даць, надпрадукцыю вырабаў, асвабадзіць дзяржаву ад залежнасьці кулакоў, што датычыцца апрavізацыі і перадаць ролі кулакоў у рукі бальшавікоў. Плян мае на мэце злучэньне практычных патрэбнасьцяў моднага гаспадараваньня ў шырокім маштабе для выбудаваньня вялікіх прадпрыемстваў на камуністычнай аснове. Ён глыбака закранывае жыцьцёвыя і працоўныя варункі вёскі.

Зразумела, што гэты плян добра выходзіць на паперы, але калі прымуцца правадзіць яго на практыцы, дык ня трэба быць прарокам, каб сказаць, што доля яго будзе тая самая, што і ўсіх папярэдніх бальшавіцкіх планаў і экспэрымэнтаў. Ці-ж не ведама, што бышыя абшарніцкіе двары з найлепшаю зямлёю былі аддадзены дваравым парабкам і іншым беднякам для кальлектыўнай абработкі іх па савецкай сыстэме (Саўхозы), і што-ж вышла? Нічога. Яны ня толькі не далі ніякай надпрадукцыі, але самі збанкрутавалі. Гэта самае будзе з „Колхозамі" і „Комхозамі".

Плян хутка выконваецца, бо сяўба пад носам. Гаспадары прымушываюцца падпісываць кальлектыўна кантракты, што назначаны кавалак зямлі апрацуюць і дадуць дзяржаве вызначаную вагу збожа. Ім абяцаюцца ад дзяржавы патрэбные інвэнтары і земляробскія машыны за плату... Але калі яны будуць даны і чым сялянін будзе плаціць? Ён плаціць 6 рублёў у год падатку за адну карову, далей за каня, за авечку і г. д. Дзе ён возьме грошы без заработкаў? Дык ня дзіва, што ўнутранныя пазычкі бальшавіцкай улады ідуць так сама як і загранічныя „крэдыты". — Бедныя сяляне С.С.С.Р.

*З—ц.*

*) Глядзі статцьцю Занеманца ў № 8 (14) „Прав. Бел.".

# Цікавы канфлікт Ватыкану з фашызмам.

(Канчатак)

У пачатку новага году выбухнуў востры канфлікт паміж Мусаліні і Аўстрыяцкім урадам. Аўстрыяцкі Сойм і сам прем'ер ксёндз Зейпель востра выступілі проці зьвярына - нацыяналістычнай палітыкі фашызму ў Італьянскай частцы Тыроля адносна да нямецкага каталіцкага насяленьня заселенага Італіяй пасьля вайны краю.

Мусаліні вельмі востра адказаў на гэтую спробу ўмяшацельства ўва унутранныя справы Італіі, пагразіўшы — ў разе паўтарэньня — адказаць ужо ня славамі, але чынам...

„Хрысьціянска-дэмакратычная" большасьць Аўстрыяцкага парлямэнту тады апэлявала да Папы. А спрытны кс. Зэйпэль замест далейшай небясьпечнай палемікі з Мусаліні паслаў да папы венскага кардынала Піфля з скаргай. Скарыстаўшы якраз з моманту папсаваўшыхся ўзаемных адносінаў паміж абодвыма Рымамі, — касцельным і сьвецкім...

Папа, прыняўшы кардынала, як і прадбачыў кс. Зэйпэль, што парахаваўся з Мусоліні, дый за адным заходам ня толькі за чужыя, але і за свае крыўды... У сваей адказнай прамове кардыналу Папа паміж іншым сказаў: „Нам вельмі баліць тое, што нямецкія і аўстрыяцкія каталікі робяць цяжкія Нам закіды за тое, што Мы нявыступілі на абарону бяспрэчнага іх права на навучэньне рэлігіі ў матчынай мове. Але скажэце ім, што Мы усьцяж самы жывем тутака ў няволі, бо-ж стасунак паміж касьцёлам і дзяржавай і цяпер усьцяж астаецца такі самы, які быў... 21 верасьня 1870 году... Мы зробім усё, што толькі будзе магчыма, але Мы баімся, што нашыя стараньні не палепшаць, але толькі пагоршаць палажэньне"...

Каталіцкая прэса ўсяго сьвету, надрукаваўшая гэты адказ Папы, сьцьвярджае, што ён „усхваляў сумленьне ўсяго каталіцкага сьвету",—абурыў дый разжаліў яго, пры тым ня столькі справай тырольскіх немцаў, сколькі справай самога „вязьня італьянскага ўраду"...

Злосьць фашыстаўскай прэсы амаль не перастала тады лічыцца з выразамі, нават адносна да самага Папы, які „у канфлікце паміж Аўстрыяй і Італіяй выразна стаў на бок Аўстрыі"... Канфлікт між фашызмам і Папай завастрыўся яшчэ больш.

—о—

Другі чарговы „выпадак" завастрыў канфлікт—поўнага разрыву. — Пэўне-ж не „выпадкова" у тым самым часе—ў канцы сакавіка ў Рыме быў склікааны кангрэс так званага „Нацыянальнага Цэнтру", гэта частка былой магутнай апазыцыйнай партыі „пополяраў" (людоўцаў), якая пасьля разгрому апазыцыі і парлямэнту перайшла на бок ураду.

Кангрэс фашызавачых „каталіцкіх людоўцаў", падкрэсліваючы сваю асаблівую каталіцкасьць,—распачаў працу, не папрасіўшы нават благаслаўленьня ад Папы... На кангрэсе павадыры яго выхвалялі рэлігійную і царкоўную палітыку фашыстоўскага ўраду. Некаторыя з аратараў дазволілі сабе і рэзкую крытыку палітыкі Ватыкану і навэт асобы самаго Папы.

Кангрэс яўна правакаваў Папу. І ўрэшце запраўды-ж здолеў вывясьці яго з раўнавагі... Скарыстаўшы з першай касьцельнай урачыстасьці, Папа даў выхад свайму гневу. Мы ня маем точнага тэксту гэтай яго „гістарычнай прамовы". Ведама з газэтаў толькі яе агульны зьмест. Папа рэзка і рашуча асудзіў фашызм, яго „ідэалы", яго нацыяналізм, усю тую сыстэму ўзгадаваньня, якая атручывае ў школах італьянскую моладзь... Папа заклікаў усіх верных каталікоў да рашучай барацьбы проці фашызацыі школы і ўсяго грамадзкага жыцьця ў краі. Папа заявіў, што каталіцкі касьцёл першы стане на чале гэтай барацьбы, лічучы ўзгадаваньне моладзі сваей першай неадабральнай задачай...

Такі быў зьмест прамовы. Што датычыць яе „формы," дык, ня маючы яе Точнага тэксту, паслухаем, што кажа аб ёй фашыстаўская прэса.

Вось, адзін з чаловых органаў фашыстаўскага імпэрыялізму „Імпэро" піша: „Скуль гэта узялася у вуснах Папы такая гвалтоўнасьць слоў?! што крыецца за ўсей гэтай атакай?.. Хто гэта інспіраваў (падшапнуў) Папе гэты манэўр... З якой гэта тайнай чужаземнай канцэлярыі ці кансысторыі дадзена „духоўная падмога" ўсей гэтай атацы" У гневе злосьці і жалі газэта кажа, што „ніколі яшчэ ніводны з папскіх дакумэнтаў, адрэсаваных да былых лібэральных, радыкальн., „масонскіх" урадаў Італіі, ня меў такога вострага тону, які узяў Папа да фашыстаўскага ураду,—першага ад 1870 г., які выразіў добрую волю?! развязаньні „рымскага пытньня"...

З гэтага аднаго кавалку відаць, як балюча адчулі фашысты удар, зададзены па іх Папай...

Папа „благаславіў" каталіцкія часопісі на надрукаваньне цалком яго прамовы. Але вось Мусоліні, атрымаўшы яе тэкст,—*забараніў* пашырэньне яе у краі. Мала таго у адказ на удар з боку Папы ён загадаў у 24 гадзіны распусьціць усе каталіцкія арганізацыі моладзі у краі, пакінуўшы толькі адзіны „Нацыанальна — Каталіцкі Саюз Моладзі", — Фашыстоўскі...

Можна сабе прадставіць, як пачала пасьля гетага пісаць пра Папу Фашыстаўская прэса... — Піша — няма што сказаць-„моцна, гучна, сочна," як кажуць цяпер, „у стылі Мусоліні,"- зусім ня горш бальшавікоў... Піша, але усьцяж дадае: „калі-б ня нашае пашана... да асобы Папы, дык напісалі-б яшчэ ня так...—Бо-ж наша сумленьне каталікоў забараняе нам высказаць у адпаведных выразах усё тое, што мы чуем, як Італьянцы ды фашысты"...

Уся Прэса аднагалосна сцьвярджае, што „неспадзяваная, няудзячная прамова Папы адразу скасавала усё тое, што зроблена было дагэтуль на шляху узаемнага парузуменьня касьцёлу з дзяржавай"...

— —

Мы далі вышэй аб'ектыўны фактычны агляд вельмі характэрнага канфлікту. Ня будзем рабіць тутака ўсіх насоўваючыхся высадаў і прагнозаў.

Ці праўда, як піша аўстрыяцка-каталіцкая прэса, быццам гэты канфлікт—„пачатак развалу фашызму ў Італіі", не бярэмся судзіць. Можна, здаецца, моцна сумлявацца ў гэтым: залішне сільна зьвязаны ўзаемнымі інтэрэсамі абодвы „прыяцелі-ворагі",—касьцёл і дзяржава...

Апошнія тэлеграмы пацьвярджаюць гэты сумліў: абедзьве стораны, схапіўшыся за розум, зразумелі, што зайшлі залішне далёка, і—б'юць адбой...

Падчыркнем хіба толькі вось што:

Калі—ў працягу 6 гадоў банды фашыстаў з дазволу ўраду руйнавалі край, рабавалі спакойных людзей, ламалі законы і г. д.,—Ватыкан маўчаў...

Калі ўвесь сьвет усхваляў забойства пасла Маттэотті, арганізаванае ўрадам, з Мусаліні на чале,—Ватыкан маўчаў...

Калі Мусаліні ўсьцяж казаў вільгэльмаўскія зьвярыныя, людаедзкія прамовы аб меншасьцях, аб калёніях, высоўваючы, як „ідэал для моладзі, фашыста-ваяку, які з кінжалам у зубох, з бомбамі ў руках", — кінецца ўрэшце пашыраць далей „вялікую Італію",—голасу Апостальскай Сталіцы ня было чутна... Ня было, бо тады яшчэ—ўсьцяж расьлі добрыя адносіны паміж касьцёлам і фашызмам, расьлі і надзеі на памысьльнае разьвязаньне найдаражэйшага ў сьвеце „рымскага пытаньня", надзеі на адбудаваньне хаця-б у частцы былой матэрыяльнай сілы і ўлады касьцельнай дзяржавы...

„Высокая палітыка" тады душыла ў зародку маральнае абурэньне, спыняла пратэсты, засланяла вочы, затыкала вушы...

Але вось, калі, ўрэшце ўсе гэтыя надзеі разьлецяліся дымам, калі фашызм на ўсе захады ды ўслугі клеру ўсё-ж адказаў рашучай адмовай, не жадаючы ні з кім „дзяліць дзяржаву і ўладу", тады толькі неяк адчыніліся ў Папы вочы, каб бачыць, і вушы, каб чуць усё тое, што фашызм робіць з сваімі і з чужымі ў „вялікай Італіі", а перад усім,—як атручывае душы моладзі ў краі!..

— —

Недарма-ж у аснове каталіцкай рэлігіі і Касьцёлу ляжыць улада клеру, а па-над усім і ўсімі—ўлада Папы...

Дык аб гэтую ўладу ўсьцяж ішло дый ідзе і цяпер.

*Наглядчык.*

# ЦАРКОЎНАЯ ХРОНІКА.

**Асвабаджэньне мітр. Пятра Круціцкага.** Замясьціцель маскоўскага патрыаршага прэстолу мітр. Петр, як паведамляюць з Масквы ў Коўну літоўскага архіепіскопа Елеўферыя, нядаўна выпушчаны на волю. Мітр. Петр (прозьвішча Палянскі) Заняў мейсца местаблюсціцеля патрыаршага прэстолу пасьля сьмерці патр. Ціхана ў 1925 г. Скора Пасьля гэтага ён быў пасаджаны бальшавікамі у Бутырскую турму за тое, што не хацеў выпусьціць адозвы да праваслаўнага народу на карысць бальшавіцкае ўлады. З Бутырак ён быў пераведзены ў Суздальскую турму, а адтуль— у Табольск. Гэтае асвабаджэньне, напэўна было рэзультатам хлопатаў мітр. Ніжагародск. Сергія, які вёў перагаворы з бальшавіцкай уладай. Ёсьць весткі, што мітроп. Пётр ужо ня будзе кіраваць патрыархатам і просіць сабе кафедру ў Сібіры.

**Захварэў Канстантынопальскі Патрыарх.** З Канстантынопаля даносяць аб цяжкой хваробе патрыарха Васілія III; па астатнім весткам патрыарх пры смерці.

**Пасха ў С.С.С.Р.** У гэтым годзе як і ў папярэднія ў Сав. Расеі павадыры камуністычнай партыі далі прыказ усюды арганізаваць у пасхальную ноч антырэлігійныя сабраньні, па ўсіх тэатрах у вялікую суботу былі канцерты спэктаклі і гэт. далей. Ня гледзячы на гэта, у царквах было поўна і праваслаўны народ горача маліўся.

**Канчына пратаіерэя В. Туркевіча.** 15-га красавіка памёр і 18 пахаваны ў г. Астрозе на Валыні пратаіерэй Серафім Туркевіч. Нябошчык быў адным з найвыдатнейшых прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства і адзін з нялічных тут ў Польшчы сяброй Маскоўскага Собора 1917—18 г. Як такі ён заўседы ў душы цяжка мучыўся той антыкананычнай няўрадзіцай і зьнішчэньнем саборнага строю, які бачыў у Польшчы, і толькі безпасрэдняя кананічная залежнасьць ад мітр. Дыанісія і цяжкія варункі, у якіх яму прыходзілася жыць, утрымлівалі яго ад рэзкага пратэста проці фактычных царкоўных парадкаў. Нябошчык перад вайной доўга жыў як праваслаўны сьвяшчэнік у Амэрыцы.

**Канчына сьв. К. Сьвіціча.** 6 красавіка ў Габах памёр адзін з старэйшых сьвяшчэньнікаў Віленскай Еп. а. Калінік Сьвіціч. Нябошчык адзін з нямногіх пастыраў, які не пакінуў сваіх парахвіян ані ў часе нямецкай акупацыі, ані ў час бальшавіцкага наезду; за што карыстаўся пашанай сваіх парахвіян.

**Адраджэньне Віленскагага Сьв.-Духаўскага Брацтва.** Газэты пішуць, што пры Віленскай Дух. Кансысторыі арганізаваны камітэт, які займаецца устанаўленьнем Віленскага Сьв.-Духаўскага Брацтва. Дай Бог! Але мала надзеі на працу гэтага брацтва, калі яно астанецца пад уладай нашай афіцыяльнай іерархіі.

**Праваслаўны прыход у Плоцку.** У Плоцку, гдзе перад вайной было дзьве царквы, збудаваных на афяры праваслаўных, ужо гадоў 7 як няма свайго сьвяшчэньніка. Абедзьве цэрквы і дамы пры іх адабраны для касьцёла. У астані год за справу энэргічна ўзяліся самі прыхажане і ўжо ўдачна адсудзілі назад адну царкву і сталі адсуджываць і дамы. Тады мітр. Дыанісі... афіцыальна зачыніў Плоцкі прыход! Добры пастыр, які клапаціцца аб сваіх авечках.

**Каталіцкі касьцёл у С.С.С.Р.** Газэты перэдаюць, што бальшавікі зажадалі ад каталіцкага духавенства ў Сав. Расеі падпісаньня заяўленьняў аб лаяльных адносінах да савецкай улады, пагражаючы ў праціленжным выпадку ссылкай на астравы Салавецкія. Падпіска вымагае ад духавенства безумоўнага прызнаньня савецкіх законаў па рэлігійным пытаньням, і аб зносінах з Рымам толькі праз. Сав. Уладу і г. д.

Расейскія газэты ў Польшчы абмаўляючы гэтае пытаньне, уважаюць што ніхто з каталіцкіх духоўных не падпіша такога заяўленьня. Нам здаецца, што жыцьцё зможа у гэтм напрамку знайсьці кампрамісы, бо тут ходзіць не аб веры, а аб жыцьцёвых адносінах больш палітычнага, чым рэлігійнага характэру.

# Епіскап Аляксей аб Архіеп. Елеуферыі.

У № 15 „Воскрэснага Чтенія“ ў сваім апісані падарожжа мітр. Дыанісія ў Канстантынопаль і Афіны еп. Аляксей выпадкова зачэплівае архіеп. Елеўферыя, прычым гэта кароценькая заметка ярка сьведчыць аб тым, як наша афіцыяльная іерархія, страціўшы пад сабой юрыдычны і кананічны грунт, разам з гэтым страціла і ўсялякае пачуцьцё кананічнай царкоўнай праўды.

У гэтай заметцы еп. Аляксей расказывае як у Афінах ён купіў расейскую газэту „Возрожденіе“ і там прачытаў два пісьма да мітр. Еўлогія: адно ад афінскага архіеп. Хрызастома, а другое ад архіеп. літоўскага Елеўферыя. У абодвых пісьмах абодвы архіепіскапы выражаюць свае спачуцьцё мітр. Еўлогію з прычыны яго канфлікту з мітрапалітам Антоніям.

Пасьля таго, як мітрапаліт Антоні, як гавораць, „зьмяніў свае вехі“ і стаў прыхільна адносіцца да ўтворанай праз нашу іерархію аўтакефалію, гэта іерархія таксама стала адносіцца да яго прыхільна, хоць уперад зусім парвала з ім усялякія стасункі. З гэтай прычыны еп. Аляксею, відаць, дужа непрыемна, што грэчаскій архіеп. Хрызастом у спрэчцы паміж Еўлогіям і Антоніям стаіць на старане першага. Але-ж яму ня лоўка і закідаць што нібудзь архіеп. Хрызастому, як гаспадару, у якога ён знаходзіцца ў гасьцёх, і вось еп. Аляксей стараецца апраўдаць Хрызастома тым, што гэты паслаў такое пісьмо нібы не зусім сьвядома,—проста „па дабраце душэўнай“. За тое накідываецца на архіеп. Елеўферыя і тут дае волю сваім пачуцьцям.

Перад усім ён закідае Елеўферыю, зачым ён падпісываецца Літоўскі і Віленскі. Я-бы запытаўся еп. Аляксея, а якім сябе лічыў, напрыклад, сьв. Афанасі Александрыйскі, калі яго выслалі з Александрыі ці Іоан Златаўсты, калі яго выслалі з Канстантынопаля? Архіепіскапа Елеўферыя гвалтам, паміма яго волі і паміма законнай царкоўнай улады, выслалі з Вільні. Ён уважае гэту высылку незаконнай і вядома *павінен*, паводле свайго архіепіскапскага сумленьня, уважаць сябе за законнага Віленскага, хоць фактычна (апрача адной парахвіі) ён Віленскімі вернымі і не кіруе. І такім яго ўважалі і тыя многалікія парахвіі, якія пратэставалі проціў яго высылкі, такім яго адкрыта ўважаюць многа верных і цяпер, хто мае адвагу не хаваць сваіх рэлігійна-царкоўных перакананьняў.

Далей у заметцы гаворыцца, што яшчэ так нядаўна архіеп. Елеўферы ссылаўся „на аўтарытэт Ерэмскіх Карлаўцаў“ (рэзыдэнцыя мітр. Антонія), а цяпер выступае нібы ў ролі судзьдзі і ўважае чыны мітр. Антонія некананічнымі. У гэтым ён бачыць зьменчывасьць Елеўферыя ў сваіх перакананьнях.

Але-ж еп. Аляксей забыў што змянілі свае перакананьня як раз тыя-ж Карлаўцы. г. е. мітр. Антоні, які ўперад у пастанове Карлавацкага сабору на зваў мітр. Дыонісія „вучыцелям безчыния“ за антыаконанічныя чыны, а цяпер гатоў прызнаць іх законнасьць. Дзіва-ж няма ніякага, што Елеўферы, *астаўшыся зусім нязьменным* у сваіх пераконаньнях, не адабрае тых чыноў мітр. Антонія, якія адабраў калісьці і сам Антоні! Хто-ж тут аказаўся цьвярдзейшы і ў канонях царкоўных і ў сваей совясьці?

**В. Багдановіч.**

# Палітычная хроніка.

## З ПОЛЬШЧЫ.

### Асушка Палескіх балотаў.

Міністар Марачэўскі ўнёс у Сойме праект асушэньня Палескіх балотаў. Праект разьлічавы на зрэалізаваньне ў працягу 5-х гадоў. За гэты час спадзяваюцца асушыць 1 мільён 800 тысячаў гэктараў зямлі. Штогадавы расход будзе каля $1^1/_2$ міл. злотых.

### Будоўля новай зялезнай дарогі.

Прадстаўнік фірмы, якая эксплаатуе Белавежскую пушчу, падаў ваяводзе Бэчковічу ў Наваградку заяву, што фірма гатова даць на будоўлю зял. дарогі 15 міл. злот., каб толькі ў гэтым-жа годзе пачалі будаваць лінію Слонім—Наваградак — Маладэчна. Агульны кошт усей будоўлі—40 міл. зл.

## З ЗАГРАНІЦЫ.

### Адмаўленьне бязбожніку візы.

Прыяцель вядомага камуністычнага барацьбіта процiў рэлігіі Яраслаўскага, таварышч Лукачэўскі, захацеў паехаць у Бэрлін, але нямецкае пасольства ў Маскве адмовілася даць яму візу. Гэта стварыла вялікае ўражаньне.

### Жыдоўская рэспубліка ў СССР.

Савецкі ўрад пастанавіў стварыць жыдоўскую рэспубліку ўва ўсходняй часьці Сібіры з цэнтрам у Хабароўску. Туды мае быць пераселена 157.000 жыдоў. Да гэтага часу пераехала 35.000.

### Зьезд камуністычнай моладзі.

12-га красавіка ў Менску адчыніўся зьезд камуністычнай моладзі. На павестцы дня—камуністычная прапаганда сярод беларускай моладзі.

### Ваенны бюджэт Савецкай Расеі.

Ваенны бюджэт СССР. у гэтым годзе дасягнуў 742 міл. рублёў,—гата знача на 108 міл. больш, чым за мінулы год. Народны камісар тлумача гэта напружаньасьцю міжнародных адносінаў.

### Японская нота савецкаму ўраду.

Тэлеграф агенства „Экспрэсс" павядамляе, што японскі ўрад у асобе старшыні савета міністраў прыняў савецкага пасланьніка ў Токіо, якому заявіў, што ўрад СССР нарушае § 4 савецка-японскага дагавору, бо японская ўлада ўстанавіла сувязь паміж савецкай уладай і японскай камуністычнай арганізацыяй. Адначасна ў Маскву была адпраўлена рэзкая нота з трэбаваньнем каб улада СССР перастала субсыдываць камуністаў у Японіі.

### Японія пасылае свае войска ў Кітай.

Повадам для гэтага, як тлумачыць японскі ўрад, сталася небясьпека для жыцця японскіх падданых сярод кітайскіх смут.

### Страшны ўзрыў бомбы ў Мілане.

У Мілане перад самым адчыненьнем выстаўкі, на адкрыцьце якой павінен быў прыехаць італьянскі кароль Віктар Эммануіл, якраз у гадзіну назначаную для яго прыезду, каля будынку выстаўкі раптам здарыўся ўзрыў бомбы, відаць недзе схаванай пад зямлёй. Кароль трохі спазьніўся, дзеля чаго астаўся цэлы, але затое аказалася многа забітых і раненых з публікі, пераважна дзяцей-школьнікаў, якія стаялі шпалерамі па бакох вуліцы, чакаючы караля. Доўга італьянская паліцыя не магла знайсьці вінаватых, але як пішуць у астатнія часы газэты, праступніка злавілі. Асоба яго добра яшчэ ня выясьнена.

### Стыхійныя беды.

17-га красавіка па ўсей Польшчы праняслася нябывалая сьнежная бура. Амаль-што ня па ўсіх лініях часова перарвалася зялезнадарожная, тэлеграфная і тэлефонная камунікацыя. У Варшаве вуліцы занясло сьнегам. Такія-ж самыя мяцеліцы і буры прайшлі праз амаль ня ўсю Гэрманію і часткі Францыі.

— У Баўгарыі амаль ня ўвесь край дужа пацярпеў ад землятрасеньня. Многа дамоў па гарадох і вёсках разваліласся,

пагібла многа людзей. Сотні тысячаў людзей асталіся без страхі над галавой. Адгалоскі трасеньня зямлі чуваць было аж на поўдні Польшчы.

— У Амэрыцы ізноў навадненьне,— на гэты раз ад ракі Коннектікум. Затапіла цэлую мясцовасьць Уат-Рэйгат.

— З Савецкай Расеі з Каўказу і Сібіры (Алтай) таксама пішуць аб нябывалых разьлівах р. Куры і Тэрэка. Затоплены цэлыя месты. На Алтаі затоплена многа вёсак ла самыя стрэх. На Мурмане (поўноч Расеі) нябывалая бура. Баяцца, што вясеньняга ўлову рыбы зусім у гэтым годзе ня будзе.

— Прыходзяць новыя весткі аб новых зямлятрасеньнях у Грэцыі і Турцыі.

## З беларускага жыцьця.

**— Справа сенатара В. Рагулі.** Ня чакаючы дэцызіі Сэнату, замест усякіх дагадак і згадак 24 гэтага красавіка віленскі апэляцыйны суд разглядаў справу сэнатара В. Рагулі. У гэты дзень перад гадзінаю 10 раніцы сэн. *Рагуля закаваным ў ланцугі* быў дастаўлены са Стэфанскага вастрогу ў Вільні ў судовую салю. На разгляд справы сабралася многа цікавых.

Пасол Ярэміч зараз-жа зрабіў інтэрвэнцыю ў пракурора суда, дзе і запратэставаў проці тых паступкаў, якія дапусьціла польская паліцыя ў адносінах да сэн. *Рагулі, якому 24 тысячы грамадзян даверыла абарону сваіх правоў у польскім парляманце.* Пракурор паабяцаў зрабіць так, каб у далейшым падобны выпадак ня здарыўся.

Апрача гэтага пасол Ярэміч, у мэтах пратэсту проці такога ганебнага абыходжаньня паліцыі з сэн. Рагуляй, рабіў інтэрвэнцыю ў ваяводзкіх паліцэйскіх уладаў.

Судовы разгляд справы распачаўся некалькі мінут пасьля гадз. 11. На пачатку адзін з судзьдзяў зрэфэраваў справу, адзначаючы, што Рагуля асуджаны акружным судом на 2 гады цяжкага вастрогу з арт. 129 ч. 1, 3 і 6 *за пасольскую справаздачу,* якая адбылася ў Наваградку на замку, у 1924 годзе ў траўні месяцы.

У сваей прамове, як вынікае з акту вінавачаньня, Рагуля заклікаў да адарваньня «крэсаў усходніх» ад Польшчы, каб далучыць іх да Савецкай Беларусі, заклікаў жыхарства не плаціць падаткі і падбураў беларусаў проці палякаў. Закончыў прамову лёзунгам: няхай жыве Незалежная Беларусь!

Проці гэтага асуду, далей гавора судзьдзя, адвакат Сьвірыд і адвакат Чэрніхаў падалі апэляцыйную жалабу, якую матывуюць тым, што Рагуля, будучы ня прыязным да бальшавікоў, ня мог гаварыць аб далучэньні заходняй часткі Беларусі да Савецкай, Рагуля не заклікаў, а толькі, *як пасол, робячы справаздачу аб сваей працы ў Сойме, гаварыў, што Беларускі Пасольскі Клюб дамагаецца ў Сойме зьмяншэньня падаткаў* і урэгуляваньня іх гэтак, каб нельга было пазбаўляць селяніна апошняй каровы.

Рагуля ў сваей прамове не падбураў, а толькі крытыкаваў урад за

яго калянізацыйную палітыку. На гэтым закончылася рэфэраваньне справы.

Пасьля гэтага сэн. Рагуля папрасіў слова, дзе і *запратэставаў проці таго, што паліцыя накладала на яго кайданы*, просячы пры гэтым суд дапусьціць у характары яго абаронца сэн. адв. В. Абрамовіча. Суд згаджаецца.

Слова бярэ сэн. Абрамовіч, які і сказаў, што проці Рагулі выступалі бальшавікі, лічачы яго сваім праціўнікам, на доказ чаго просіць далучыць да справы бальшавіцкую брашуру, у якой зьмешчаны нападкі на Рагулю. Уся-ж справа проці Рагулі паўстала дзеля таго, што *сьведкі, якія даказвалі віну Рагулі, зьяўляюцца людзьмі мала-інтэлігэнтнымі, якія не зразумелі прамовы*.

Сэн. Абрамовіч просіць справу Рагулі адлажыць і паклікаць на расправу двух новых сьведкаў. Проці гэтага пракурор не пярэчыў.

Апеляцыйны суд, пасьля кароткай нарады пастанавіў: справу адлажыць і на новае паседжаньне паклікаць сьведкаў, паданых абаронай, бальшавіцкую брашуру з нападкамі на Рагулю далучыць да справы.

Пасьля гэтага *Рагулю павялі ізноў у вастрог.*

**— Судовы працэс Грамады.** Ужо закончыўся дапрос сьведкаў Грамады, пакліканых як пракурорам, так і абаронаю. Пасьля гэтага ў далейшай працы распачнецца разгляд судом усіх мітэрыялаў. Думаецца, што закончыцца працэс у палове наступнага месяца траўня.

**— Судовыя справы паслоў Сойму.** 24-га г. м. на плевуме Сойму на падставе § 21 Констытуцыі спынена уталоўнае перасьледаваньне некалькіх сяброў Сойму, у тым ліку беларусаў: Ярэміча, Юхневіча, Карузы, але астаўлены пад судом грамадаўцы Стагановіч і Гаўрылік.

—о—

Пад каўцыю звольнены з вастрога Шутовіч, абвінавачаны па 129 ст. за агітацыйную перадвыбарную працу.

## АД РЭДАКЦЫІ.

РЕДАКЦЫЯ просіць грамадзян падпішчікаў прысылаць падпісныя грошы, ад гэтага залежыць істнаваньне нашае часопісі «Прав. Белар.» будзіць выходзіць узноў толькі два разы ў месяц. Падпісная плата узноў зніжана (гл. 1-ю старонку).

Каму дарагая праваслаўная вера і Царква, хто імкнецца да яе развою, падпісывайцесь на „ПРАВАСЛАЎНУЮ БЕЛАРУСЬ“

**ЗЬМЕСТ.** 

Рэдактар-выдавец: Л. Голад. Друк. ім. Ф. Скарыны, Людвісарская 1.

Гэта быў апошні нумар, больш ня вышла з прычыны матэрыяльных